*Няхай жыве саюз рабочых і сялян!*

# ЧЫРВОНЫ СЕЙБІТ

ДВУХТЫДНЁВЫ ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ ДАДАТАК ДА „БЕЛАРУСКАЙ ВЁСКІ"

№ 15. Нядзеля 31-га ліпеня 1927 г. № 15.

## Красавала гора, а красуе радасьць

Пятро Глебка

Ой ды на палетках, ля бярозаў белых,
красавала жыта, красавала сьпела.
А з сялянскіх хатаў на прыгон-нядолю
выганялі жнеяў на жніво ў поле.
Ногі пагарэлі, папякліся пяты,
бізуном параніў плечы прыганяты.
І сьпявалі песьню, і сьпявалі сумна,
аб цяжкай нядолі турбавалі думы.
Красавала жыта, быццам мак на градах,
Ой, буйное жыта, ды малая радасьць.
Там-жа на загонах, ля бярозаў белых,
красавала жыта, красавала сьпела.
Зноў з сялянскіх хатаў, і не да прыгону,
самі ішлі жнеі ў поле, на загоны.
Гнала туды гора, гнала за капейку,
дык ішла старая, дык ішлі і дзеткі.
Папякліся рукі, пагарэлі косы,
вось чаму і песьня сумней за бярозы.
Красавала жыта, быццам мак на градах,
ой, буйное жыта, а малая радасьць.
Зноўку на палетках, ля бярозаў белых,
ой красуе жыта, ой красуе—сьпее.
А з сялянскіх хатаў, распусьціўшы косы,
вышлі маладзіцы, вышлі на пакосы.
Пасмуглеюць рукі, пасмуглеюць ногі,
бо ня скінуць вокам лавы да дарогі.
І сьпяваюць песьню, а няма ў ёй суму:
іншыя надзеі, залатыя думы.
І зьвініць надзея на палёх, на трактах:
—скора загуляе на палетках трактар.
Жыта ўсё красуе быццам мак на градах,
красавала гора, а красуе радасьць.



На жніве

# НЕ НА ЎЗМОР'І ЧАЎНЫ...

## Паўлюк Трус



Не на ўзмор'і чаўны,
Ўдаль прастору вясны
Адплываюць і нікнуць ў тумане...—
Гэта постаці жней,
Ў агняцьвеце надзей,
Ў строях зор шалясьцяць на майдане.
Ў іх руках васількі,
На прыполе вянкі
І смуглявая гордасьць ва ўсьмешках.
Яны кветкамі з руж
Асыпаюць зару,
Спавіваюць жыцьцёвыя сьцежкі!..
І шасьцяць каласы
Ў пацалунках красы...
Б'юць паклоны ў часы непагоды...
Як маўкліва стаяць,
Думы ў сэрцы таяць,—
Думы-казкі адвечных мэлёдый!..
А як песьня ў цішы
Ўскалыхне дно душы,
Паліюцца акорды... Міноры...
Тады з больлю шыпшын,
Вечна хочацца жыць,—
Каб аддаць сваю радасьць прасторам!..

О, як хочацца жыць!—
Абнімаць гэту шыр...
О, як хочацца сэрцам ўпівацца і думаць!
Каб у змроках далін,
На'т каменьні цьвілі,—
Каб ня згасьлі адвечныя думы!..

А ў палёх каласы
Ў ціхім звоне красы
Б'юць паклоны абветраным нівам...
І як сон ў цішыні,
Як пражытыя дні,
Песьня коціцца ціха... маўкліва...

Ой, у полі паляначка,
Там гуляла дзяўчыначка
Да сеяла руту-мяту..

Ды з возера ваду брала,
Руту-мяту палівала
Ў будны дзень і ў сьвята...

Ой, у полі паляначка
Там хадзіла дзяўчыначка
Да сеяла з мятай ружы...

Расьці-ж, мая ружа-мята,
Цябе рваць будзе ў сьвята
Мой міленькі дружа!..

І пальлецца ў цішы
Песьня—водгук душы,
Песьня радасьці... смутку... і болю!..
Дунай-жыта маўчыць.
Толькі плачуць сычы,—
Ў ціхай музыцы журыцца поле.

Ды як з мора чаўны,
На прасторы вясны,
Адплываюць і нікнуць ў тумане.—
Тонуць постаці жней,
Ў агняцьвеце надзей,—
І шасьцяць, шалясьцяць на майдане.

---

# Касец

## Пятро Глебка

Калі над палямі павісьне змрок, тады ясьней чуваць кожны шолах, кожнае хістаньне травінкі, кожны ціхі подых ветру, і ўсё гэта зьліваецца ў адну сугучную, стройную мэлёдыю — гымн зямлі.

Я іду з пакосу...

Пад нагамі, вымытымі балотнаю вадою, чуецца цьвёрды вільготны пясок-жвір. Ен рассыпаецца шастае, шастае ярка, але ня звоніць так, як удзень.

Аднатонна шумяць старыя прысады, далёка наперадзе чуецца гоман касцоў. Коціцца ціхі напеў дзяўчат, стройны, журлівы напеў, які ўзьнімае чалавека да нейкай працы, робіць нешта такое, што-б загасіла гэты сум, навеяла лёгкасьць і звонкасьць. Утома спавівае нейкаю цягучасьцю ўсё цела, а гэты глыбокі журлівы напеў спавівае сэрца і ўва ўсім чуецца цяжкасьць, бы гэты вячорны змрок прыціснуў зямлю. Аднак, кожны шолах чуецца, кожны гук далятае, усё нейк бы варушыцца, жыве і таму шуміць глуха, але ясна...

Прыемна і соладка павявае на сэрца гэта глухая вячорная цяжкасьць і ясьнасьць, выразнасьць.

За некалькі крокаў перада мною, бы зорка, што пала на зямлю і павісла так нізенька, не дасягнуўшы мэты, зіяе агоньчык, іскра... Гэты агоньчык, то павольна тухне, то раптам загарыцца ярка, залаціста—нехта сядзіць ля бярозы і курыць...

Я падыходжу бліжэй і спыняюся.

Чалавек мабыць мяне ня бачыць, бо не зьвяртае ні якае ўвагі, сядзіць, прыпёршыся сьпіною да бярозы, за-

## РАНІЦА ЎЛЕТКУ

**Міхась Багунец**

Ї жытнёвых прасторах,
Дзе золата сьпее
Чырвонаю куляю сонца ўсплыло.
У сініх агнях
Васільковай завеі
Далёкаю плямай мігае сяло...

У жыце высокім
Вясёлкамі грае
Іскрыста-бліскучай расы акіян;
Над рэчкай глыбокай,
Над полем, над гаем,
Палотны сівыя раскінуў туман...

А сонца сплятае
У хмарныя косы
Туманаў далёкіх халодную рацьь.
Ї нікнуць пад сонцам
Іскрыстыя росы,
Чароўным агнём дыямэнтаў гарацьь...

Пад звонкай касою
Ляглі сенажаці,
На сонцы ў копах завяла трава.
Нізіны, лугі
Ї зялёныя гаці
Ї жыта высокае ліпень схаваў.

Ці хутка-ж на полі
У жытнёвых прасторах
Сталёвыя песьні сярпы запяюць.
Ї голымі стануць
Тады касагоры,
Як жыта у пуні сяляне зьвязуць

Пакуль-жа ў прасторах,
Дзе золата сьпее
Далёкаю плямай мігае сяло...
У сініх агнях
Васільковай завеі
Пунсоваю куляю сонца ўсплыло...

## Я ЧУЮ ПЛАЧ

**Алесь Бяздольны**

Я чую плач, я чую енк і стогны,
Я чую прычытаньне мацярок—
Братоў Заходніх, нашых мільёнаў,
Што церпяць паншчыны крывавай зьдзек.
Ад мацеры сынка, ад жонкі—мужа ўзялі,
У дэфэнзыве сьцісьлы хрып чуваць;
Рве на сабе адзежу маці з жалю,—
Як сына ёй ад мук адратаваць...
Ліецца кроў, ракою льлюцца сьлёзы...
О, крывапіўцы! Надыходзе час,
Калі на першую асіну ці бярозу,
Завашы зьдзекі, будуць вешаць вас.



кінуўшы галаву так, што не зразумела ці ён глядзіць у даль, ці ў неба. Пад бляск месяца я добра бачу кожную складачку яго губ, кожную рысу твару. Гэта—Канцавых Рыгор, чалавек год пад дзевяноста, стары, але моцны. Высокі ростам, шырокі ў плячох, ён здаецца нейкім асілкам, волатам мінулых вякоў. Чуць-чуць пасівеўшыя валасы, згорбленасьць у плячох, густа і цесна зрослыя бровы, шырокія вусы надаюць выразу яго твару нейкую энэргічнасьць, упартасьць, мяккасьць душы, дабрату. Так і хочацца, моцна хочацца пагутарыць з гэтым дзедам пад гэтаю шырокаю густою бярозкаю...

— Добры вечар,—зьвяртаюся я.

— Добры, здаровы,--адказвае Рыгор, абарачваецца і ў вачох яго сьвеціцца боль, глыбокая, калючая.

Я кладу касу, саджуся на ўзьмежку дарогі поруч з Рыгорам.

— Што-ж гэта вы нешта сядзіцё, прысталі ці што?—пытаю.

— Ведаеш—старасьць нярадасьць... Рыгор гаворыць глуха, ляніва, відаць, што яму цяжка, балюча гаварыць...

— Чаму-ж гэта самі ходзіце касіць? Каб сказаў ня было каму, а то трох сыноў... Рыгор не дае мне дагаварыць, у вачох яго загараюцца бліскуючыя агні...

— Люблю, брат, касіць. Чорт яго ведае, як люблю. З маладых год люблю, дык вось не адвыкнуць... Мне касіць—гэта ўсё на сьвеце. Дзякуй богу ня тыя ўжо гады, уцярпець ніяк не магу, каб гэта ня ісьці касіць. Учора ня быў, а сёньня не ўцярпеў. Хлопцы ўчора пашлі касіць, дык на мяне, як напала ахвота, што бяда... Тупаў я тупаў цэлы дзень,



# Апавяданьні Хвашча Палявога

## ПРОДАЖ

— Але карысная жывёліна гэтая кабыла. На ёй і шнур свой узарэш, на ёй і ў лес па дровы паедзеш. Яна-ж табе і жарэбчыка дасьць. Жарэбчык таксама карысная рэч. Калі яго прадаць, дык можна шмат чаго добрага накупіць. Так і я зраблю, прадам жарабка—гэтак разважаў сам з сабою Міхась едучы на кірмаш.

Прыехаў. Праціснуўся паміж людзьмі на лепшае мейсца. Стаіць, чакае пакупнікоў на жарабка.

Падыходзе купец. Абышоў вакол жарабка і пытае:

— Прадаеш?

— Прадаю. Мо' купіць хочаш?

— А як ты думаеш? Ня куплю?

— Купляй. Мне што? Мне трэба прадаць, а табе—купіць

Купец яшчэ разы са два абышоў наўкола жарабка. Абгледзеў, усюды зірнуў. Паглядзеў зноў на Міхася і пытае:

— А што хочаш за яго?

— Што? Вядома грошы. Чаго-ж мне яшчэ хацець?

— Я і сам ведаю, што грошы. Але колькі?

— 40 рублёў дасі?

— А мо' багата будзе?

— Што ты, чалавеча. Таней ты нідзе ня купіш.

— Бяры трыццаць.

— Не. За столькі не аддам.

Доўга яны яшчэ валаводзіліся, але нарэшце зыйшліся на 36 рублёх. Выняў купец грошы з кішэні, аддаў Міхасю, а той пажадаў яму ўсяго найлепшага і пашлі яны кожны ў свой бок.

— Ну, цяпер і я пайду чаго-небудзь сабе прытаргую—падумаў Міхась.

## ГАЙДАМАЧЫЦЬ ВЕЦЕР

**Лявон Кісялёў**

**Гайдамачыць вецер**
**Пахам залатым –**
**Апранулась вецьце**
**У малочны дым...**
**Разаралі межы**
**Вараныя дні,**
**Раскідалі слаўна**
**Ціхі шэпт зарніц.**
**Веснавеі новыя**
**Запляліся ў весень,**
**Чарамі вясновымі**
**Закахалась песьня.**
**І ў цябе ня спросіць**
**Ці ўпівацца раньнем—**
**Раскудлачыць просінь**
**Вогністым каханьнем!**
**Пад такім прывольлем—**
**Перегас журбы?..**
**Песьняй, песьняй вольнай,**
**Як ніколі—жыць.**

* * *

**Зачапіўся вецер**
**Аб кудравы роскід—**
**Абсівілі вецьце**
**Стромкія бярозкі.**
**І палошчаць гоні**
**Узораныя грудзі...**
**Залатыя коні**
**Дні свавольна пудзяць,**
**Залатыя коні**
**Лёгкакрылых днёў**
**Паўзаралі гоні**
**Сонечных палёў.**

а пад вечар узяў касу, наладзіў, прыхаваў у гумне, каб хлопцы ня бачылі, бо ня пускаюць, падлы. А сёньня ўстаў я гэта раненька ды й пашоў памаленьку на сенажаць. Далёка, брат, у нас луг... Пакуль я гэтыя пяць вёрст перамераў, дык і дух чуць ня вон. Змарыўся на чыстую. Думаю —ну як прыду лягу, ды паляжу. А як прышоў, як глянуў на траву, забыўся на ўсё. Ах і трава, трава... Проста ў рост чалавека. Люблю я гэтакую касіць. Размахнешся гэта, дык аж рыпіць пад касою...

У вачох Рыгора зноў зьяўляюцца нейкія шалёныя агалькі радасьці, дзікай радасьці, захапленьня. Ён не расказвае, ён проста мастацкі малюе размах, сьвіст касы, радасьць, напружнасьць у гэтай працы—касьбе. У кожным слове чуецца нязвычайная любасьць, замілаваньне, дзіцячае захапленьне касьбою. Я гляджу на Рыгора, і здаецца ён мне тым хлопцам, які толькі навучыўся касіць, а Рыгор сапраўды шмат касіў, ой шмат. Ён пачынае ўспамінаць маладосьць, і часам мусьці і тут скрозь, скрозь—касьба і касьба. Раптам Рыгор напружваецца, зьбірае ўсе сілы, каб не закрычаць, а ў вачох адбіваецца страшэнная боль чалавека. Ён моцна сьціскае сківіцы, што аж скрыгічуць зубы і змаўкае.

Я некаторы час таксама маўчу пасьля зьвяртаюся:

— Дык можа пойдзем дзядзька?

— Не магу—адказвае і з грудзей вырываецца стогн.— Вот пахістаўся трохі, дык калацьцё схапіла. Пашоў Зьмітрок дадому, дык зараз павінен пад'ехаць, не зайду...

Рыгор зноў ссоўвае бровы; з вялікаю сілаю моршчыць лоб і яшчэ мацней сьціскае

# ВЫЙДУ Я ВЫЙДУ НА ГОРЫ КАЎКАСКІЯ

## Я. Баравік

Выйду я выйду на горы каўкаскія,
Стану на горы, на ўзвышшы скалы:
Дзе разрасьліся дубы ста расьвецкія,
І да крыніц прылеглі.

Сівы туман ўсё кудзеліцца ў долах,
Шумай сьпявае вада.
Весела часам блукаць мне па горах,
Кожын кусток разглядаць.

Пеняцца сівыя хвалі туману,
Хвалі жыцьцёвых крыніц;
Думка юнацкая, сэрца ўсё маніць,
З ветрамі сьцелецца ніц.

Песьні казачак, калышуць каштаны,
У песьні ўбралі Каўказ:
О, Беларусь мая, сёньня вітаю
З гораў у гэтакі час.

Сонцам фарбуюцца далі прыморскія,
Даляў ня зьмеран прастор:
Думкі складаюцца з песень—гаворак,
Песьні—з далінаў і гор.

Выйду я выйду на горы каўкаскія,
Піць хараство у цішы:
Як сэрца блукае па сьпевам, прывольлю;
Як жар разгарыцца ў душы.

# ДЗЕНЬ ПРАЙШОЎ

## Г. Лёнгфэлло

**Вось дзень прайшоў... і цемната**
**ахутвае зямлю.**
**Ўжо сьвятло адбегла ў прочкі,**
**На ўзгорку я стаю.**

**Мігцяць агні вясковых хат**
**Праз дождж туман і імглу,—**
**Мяне-ж ахоплівае смутак,**
**Які стрымаць я не магу.**

**Гэта сум ад палкіх жаданьняў**
**Не зрадні яму журба,**

**Вось як гэты дождж—імгла.**
**Яго родзіць толька гора**
**Прыдзі сьпявай мне песьню**
**Каб суму больш ня меў.**
**Прагоніць хай цяжкія думкі**
**Твой просты шчыры сьпеў.**

**Не мастакоў вялікіх,**
**Ня модных тых бардоў[1])**
**Чыё глухое рэха**
**Ідзе праз карыдор вякоў.**

**А палкага поэты,**
**Што ліў свой сьпеў з душы,—**
**Як дождж ліецца ўлетку з хмараў,**
**Як сьлёзы цякуць у цішы,—**

**Які ў бессанлівую ночку**
**Пасьля працоўнага дня**
**У душы адчуваў пералівы**
**Таёмных мэлёдый жыцьця.**

**І твой сьпеў мяне супакоіць,**
**Ён пральле асалоду ў душу,**
**Бо люблю і любіў з дзяцінства**
**Цудоўную гукаў імшу.**

**І ноч будзе музыкай поўна,**
**А сумныя думкі мае**
**Зьліюцца з чароўнаю песьняй**
**І зьнікнуць і згінуць ў імгле.**

З ангельскае пералажыў
**А. Мардвілка.**

[1]) Барды—сярэднявяковыя поэты Ангельшчыны

---

сківіцы, бы хоча гэтым задушыць боль.

Скора пад'ехаў Зьмітрок. Рыгор стогнучы ўзьлез на воз, я падсеў на білу і паехалі да дому. Пры кожным удары ў камень калі калёсы падскаквалі, Рыгор корчыўся, сьціскаў кулакі і з грудзей міма яго волі вырываўся стогн Зьмітрок пры гэтым ня кідаў ныць:

— Касіць яму!?. Быццам без яго не пакосім. Каб мне так, дык я ляжаў-бы дома і не падумаў-бы пра касу, а ён нейкую ахвоту мае.

— Эх, ня бачыш ты, хлопец, хараства тут і шырыні,—заўважыў Рыгор і ўвесь час аж дадому маўчаў, толькі глуха і цяжка стагнаў. Калі-ж каля хаты злазіў з возу, пахіснуўся, абапёрся рукою аб шчыкеты і як-бы сам сабе заўважыў з смуткам у голасе:

— Мусіць сёньня я апошні раз касіў... э-э-э-х-х.

Гэта было ў аўторак, а ў пятніцу Рыгор зноў пашоў касіць, чужое касіць, з ахвоты, бо сваё было пакошана. І калі раніцаю, шчэ да ўсходу сонца, я прышоў на луг, там ужо на паласе ўдавы Агаты, маталася постаць Рыгора.

— Спор у рабоце—сказаў я праходзячы.

— Дзякую — адказаў, не перастаючы касіць Рыгор.

Я прыпыніўся і залюбаваўся. Шырокія, сьмелыя размахі касы роўна складалі мяккую траву ў пракосы. На траве яшчэ зіяла раса і калі Рыгор махаў касою, яна асыпалася, шалясьцела.

Я пастаяў палюбаваўся на гэту чутачку згарбленую постаць асілка і пашоў на сваю паласу.

Чуваць было аднатоннае шастаньне—сьвіст касы, часамі яго перабіў звон мянташкі, а пасьля зноў роўна і бесперастанку чуласся: шыс-с-с-с, шы-с-с-с...

# Чараўнік

**(З натуры)**



**Ігнась Дубок**—вясковы настаўнік і малады пісьменьнік, працуе ў вёсцы. Яму добра вядомы быт, думкі й перажываньні беларускага селяніна, таму і ў творах яго мы спатыкаем жывых гэрояў сялян, як Ігнась бязбожнік, альбо Піліп, што згубіў грошы едучы з кірмашу.

Апавяданьні Дубка друкуюцца амаль ува усіх беларускіх журналах і газэтах.

— Гэтаму бязбожніку Ігнасю вязе, яй права, вязе. Пасеяў ён авёс. Расьце, як на дрожджах. Ячмень, пшаніца, бульба—таксама, а турнэпс, дык зямлю разварочвае, вось зірніце, людцы добрыя.

— Але, чалавеча, праўду ты кажаш. Разам насеньне куплялі, разам бадай садзілі, гэты турнэпс, а зірні ты?

У нас пагінуў, як карова зьлізала, мошачка боская паела, а ў яго хоць-бы каліва загінула. Проста расьпірае зямлю, дый годзе.

— Маўчы, браце! Яму мусіць сам чорт дапамагае, бо калі ў мяне не парос, дык ані ў каго не павінен быў парасьці.

Як вам, мужчынкі, усім вядома, што я чалавек веруючы, заўсёды надакучаю богу сваімі грэшнымі малітвамі, кожны раз сьвечачку яму стаўлю аб „ніспасланьні пладоў зямных“, а на справе выходзіць, чэрці яго ведаюць, што такое.

Ува ўсіх на полі пражэцца ад сьпякоты, як гарох на патэльні, а ў яго бязбожніка хоць-бы што: расьце, зялянее, наліваецца, сьпее, ажно любата зірнуць.

— Стойце, пачакайце, браткі!. Ён чараўнік, дальбог праўду кажу. Вось слухайце.

Аднойчы раненька, раненька ішоў я ў лазу. Зірк, аж Ігнась нешта сее па радкох турнэпсу, а апошні толькі што ўзышоў і меў па два лісьцікі.

Бярэ гэта ён жменяю з торбачкі і сыпле на гэты, во... як ён.

— Ну, турнэпс.

— Але, але на турнэпс і кажа сам сабе, бо мяне ён не бачыў.

„Ось я табе пакажу, ліха тваёй галаве, як зялінку есьці, будзеш ты мяне помніць, трасца табе ў бок. Пакуль сонейка ўзыдзе, дык ты акачурышся“...

— Сум мяне некі ўзяў, але нічога я яму не сказаў, а хуценька ўнурыўся ў зямлю і ходу ад яго.

— Бач ты яго! Вось чаму ў яго ўсё добра расьце...

— Адзін раз я над вечар іду сабе ля плоту і бачу, як гэты самы бязбожнік кропіць, як поп крапідлам з вядра і кажа: „Ва імя айца, паўяйца, тут бялок, тут жаўток, а тут шалупаечка“ і гэтак сьмяецца, што ажно і мяне сьмех агарнуў і я кажу яму.

— Памажы божа!

— На здароўейка, Пранучок!

— Што гэта вы робіце?—пытаюся.

— Сьвянчу расьлінку сьвятой табачнай вадой. Вашы палоскі пасьвяньціў поп, а я свае сам, мо' горай ня будзе.

— Бач ты яго,—загаманілі ўсе разам. Так яно і ёсьць, што чараўнік, бо ў яго гэтая турнэпса парасла, а ў нас боская мошачка паела, каб яе пярун.

— А я, мужчынкі, скажу вам, які Ігнась чараўнік, бо я слухаў, слухаў вашу гутарку, дык аж брыдка стала слухаць.

Што ён начараваў, дык гэта-ж праўда і кожны з нас мог-бы гэтыя зрабіць чары.

Трэба ўзяць попелу, а замест таго, каб кожнага сьвята ставіць сьвечачку, дык трэба было за гэтыя грошы купіць вапны, зьмяшаць з попелам і сеяць па турнэпсу, мошка і прападзе, а калі не, дык праз тры-чатыры дні зрабіць другія чары.

Узяць вядро вады, наліць у цаган, усыпаць туды васьмуху махоркі, паставіць, каб загатавалася, потым астудзіць і пакрапіць на манер папа, якім-небудзь

крапідлам, гэты... во... турнэпс і мошкі загінуць.

Вось Ігнаць зрабіў адно, а калі не памагло, дык другое і бачыце, чары прышліся не па густу мошкам, яны пагінулі, а турнэпс парос і цяпер любата на яго глядзець.

Праўду вучоныя людзі кажуць, што калі сам сабе не пачаруеш, дык пасьля пакукуеш і бог табе не дапаможа, хоць ты і лабэціну сабе разьбі.

Мусіць-жа праўду аграном казаў, што Ігнасяў турнэпс лепшы ўва ўсім раёне.

— Праўда, Васілька, праўда, я сам чуў,—адазваўся стары Рыгор.

— Во, бачыце! Акрамя таго, трэба яшчэ догляд, непатрэбнае зельле выкарчаваць, трымаць у чыстаце, дык дзе-ж яно дзенецца, парасьце і яно так і ёсьць.

Мо' і праўда, што ты думаеш? Верна гэта так і будзе, а мы, калі што якое, дык усё да бога, усё да яго, а ён табе за гэта дулю ў нос, а карысьці ні на грош.

**І. Дубок.**

**Вёска Сяргеевічы на Меншчыне.**

## Хаты ажываюць

**Аркадзь Чарнышэвіч**

Вёска, глухая вёска... Сіратамі пазіраюць пакрыўленыя на бок хаткі, пакрытыя саломай, якая абрасла зялёным мохам. Пуста і ціха ў гэтай вясковай цемры.

Спавітая старымі каранямі цемры стаіць яна і думае сваю старасьвецкую думу. Вялікая каменная двухгаловая царкаў, абгароджаная новым дубовым плотам, абсаджаная бярозамі, таполямі, магутнымі дубамі, яшчэ больш гаворыць нам што тут пануе цемра.

— Ці чула ты, Ганна: вунь прыехаў з арміі Дзямянаў Павал ды кніг, ды газэт колькі навёз!—Гаварыла Тадора Ганьне, спаткаўшыся з ёю вечарам на вуліцы.

Тая толькі моўчкі пакруціла галавой барджэй некуды пабегла.

Назаўтра ўся вёска ведала, што прыехаў Дзямянаў Павал. Дзяўчаты адна перад аднэю расказвалі пра Паўлу.

— Які-ж харошы стаў, а паправіўся як...

А ў Дзямянавай хаце была процьма людзей, і старых, і маладых і жанок, дзяцей. Яны, як мага рваліся да стала паглядзець на Паўлу ды на газэты і кнігі, якія ён прывёз.

— „Вось бумагі курыць было-б мне навек, каб папрасіў з адну „ведамасьць" ці кнігу,—гаварыў стары Сымон.

І з усіх бакоў пасыпаліся просьбы да Паўла, каб даў газэціну.

— Ціха супакоіў іх Павал,—заўтра вечарам прыдзеце—усім дам і пакажу цікавую штуку.

— Усе змоўклі і пачалі слухаць Паўлу, які ім расказаў пра Чырвоную армію, пра горад, пра кнігі, і толькі позна вечам разышліся па хатах.

Назаўтра вечарам, толькі сьцямнела вяскоўцы пачалі сходзіцца ў Дзямянаву хату. На дварэ стаялі нейкія шасты, якіх раней ніхто ня бачыў.

У хаце каля стала Павал нешта марудзіў.

Каля нейкае скрынкі з вялізнаю трубою

— Стары Сымон падашоў да Паўлы і казаў:

— Ну, паказвай штуку.

— Павал, нічога ня кажучы яшчэ крыху памарудзіў з дроцікамі і раптам загарэліся лямпачкі, з трубы пачуліся словы, потым песьня...

Сяляне анямелі...

— Чорт!—закрычаў стары Сымон і падаўся назад, а разам з ім і ўсе пацісනуліся да дзьвярэй...

— Грамахвон, — загаварыў адзін з мужчын.

Але раптам лямпачкі стухлі, і ўсё сьціхла.

— Што гэта? —спытаў стары Сымон.

— Радыё - прыёмнік, — адказаў Павал, і пачаў тлумачыць, што да чаго тут патрэбна.

І калі скончыў Павал гаварыць, дык стары Сымон спачатку пакруціў галавою абмацаў скрынку ды сказаў:

Маладзец ты, Павал...

Да позьняй ночы слухалі радыё. І кожны вечар пачалі зьбірацца да Дзямяна.

Памаладзела старая скрыўленая на бок вёска. Паросшыя раней мохам хацінкі ветліва пазіраюць у даль.

А на царкві замест крыжа ўецца чырвоны сьцяг. Цяпер там клюб, тэатр, чытальня.

**В. Кулакі, Случчына**

## ЗА ГРЫБАМІ



Прышла гарачая пара. Па лясох і рэчках зьвіняць дзіцячыя галасы. Кожную раніцу дзеці вёскі гуртам бягуць у бліжэйшыя бары за баравікамі.

Вось малюнак з мястэчка Шацк. Уверсе: перад адыходам у грыбы; ɣлева: за ягадамі.

## ЛЮБЛЮ ПРАХОДЗІЦЬ

Рыгор Папарацъ

Люблю праходзіць раніцою,
Мяжой усыпанай расою,
Глядзець на нівах хваляваньне,
Дзе наша першае спатканьне
Было адзначана сьлязою.

Зьвініць тут конік з каласкамі
Жартуе пчолка з васількамі,
Бярозкі гонкае пялёсткі
Кудлаціць вецер, як валоскі,
Сваімі доўгімі рукамі

І паплывуць мае тут мары,
Як бы ў небе тыя хмары
Да той дзяўчынкі, што з сярпочкам,
(Ў вянку галоўка з каласочкаў).
І застановяцца на твары.

З пад броў засьвецяць яе вочкі,
Як тыя зоры сярод ночкі,
Як той агонь у тым абшары...
Калі давалі мы ахвяры,
Былі ў расе два васілёчкі.

## НА СЕНАЖАЦІ

З. Бульбянік

Ой, лугі, лугі,
Што за шыр—разлог,
Дзе расьце трава:
Асака, мурог.

Парасла яна
Пасплятадася,
Пакруцілася,
Паваляхася.

Касцы з косамі
Прыйшлі воіны,
Падразаць траву
Аж да кораня.

І раздаўся звон,
І раздаўся стук
Ад сталёвых кос,
Аж да ночы тут.

Эх, касу, касу
Я вастру скарэй,
Мураву траву
Хай бярэ вастрэй.

І ляжыць пакос
Пасьцель мякка—пух.
Гоман, песьні, сьмех
Напаўняюць луг.

Гэй! Рука, рука
Весялей махай,
Маладзец, касец,
Хай-жа косіць—хай.



НА ВАЙНЕ — Газы пушчаны

## СЯГОНЬНЯ

**Міх. Багунец**

Сягоньня з пратэстам
Мы выйшлі:
На вуліцах—
Мора людзей:—
Зноў лёрды нам кінулі вык-
лік
Праявамі чорных падзей...
Ім мала
усходніх расстрэ-
лаў,
Разгромленых мала руін,—
Шчэ сотні
і тысячы целаў
Парваць захацелася ім...
Гнілыя,
крывавыя зубы
Ў рабочае цела ўсадзіць,—
Мільёны—
давесьці да згубы,
Мільёны
парэзаць,
пабіць...
На Ўсходзе крываваю зданьню
Сусьветны устаў
Капітал,—
І ўсё-ткі—ня гасьне паў-
станьне—
Бунтарыць
абуджаны
шквал...
Змагаюцца з катам
народы—
Сьвятлее
праменьністы
шлях.
І гордая
постаць
свабоды
Чырвоны
разгортвае
Сьцяг...
І хочуць крывавыя лёрды
Схавацца
за горы
касьцей,
каб вольных
[illegible] напеваў акорды
Згубіліся ў стогнах людзей
А думкі сусьвету працоўных,
Іх погляды—
мкнуцца цяпер
На вольны,
протэстамі поўны,
Магутны Саюз
Сэ-Сэ-эР.
А лёрды—балотныя гады
Наўкола жахліва
шыпяць;
Іх погляды—поўныя здрады—
Хацелі-б
яго зруйнаваць...
. . . . . . . . . . .
Хай, поўныя жудаснай смагі,
Крывавыя
гады шыпяць—
Падыме чырвоныя сьцягі
Працоўных
сусьветная
раць...



## ПРА БЯРОЗКУ ПРЫ ДАРОЗЕ

**В. Сташэўскі**

За узьмежкам, на лагчыне
Дзе прастор вятру адчынен
Ліхадзею,
Белакурая бярозка
Аздабляе там палоску
Ў шоўк—адзеньне.

Ідучы нейк па дарозе
Я падслухаў у бярозы
Ціхі плач:
Ой, якая-ж мая доля
Вецер гне мяне да долу
Глянь, пабач.

Ломіць, топча маё вецьце
і ня міла жыць на сьвеце
Эх, ня міла..
Не дае і ў май адзецца
Рве на мне маё адзеньне
Сваёй сілай.

Даражэнькая, сястрыца
Нас адна рака вадзіца
Спавівае.
Я ня думала разлучаць
і так будуць мучыць, мучыць
Ды навалай.

А віталі й мяне кветкі
З майго вузкага палетку
Ой, віталі!..
Любыя мае вы кветкі!
Й вас на гэтым жа палетку
патапталі.

Так праходзіць год за годам
Не пазьніся-ж сонца ўсходам
ты—надзея!
Ой, і горка жыць на сьвеце,
Калі йрвуць і кветкі й вецьце
Ліхадзеі.

Вам, паны, мае парада
Не забудзьце-ж не:
Што й бяроза, мае сьлёзы
І вялікі гнеў.

# Чаму пагасла лямпа?

**Рабіндранат Тагор**

* * *

Чаму пагасла лямпа?

Я зацяніў яе сваёю сьвіткай, каб захаваць ад ветру і вось ад гэтага пагасла лямпа.

Чаму саўяла краска?

Я прыціскаў яе да сэрца з баязьлівою любоўю і вось ад гэтага саўяла краска.

Чаму крыніца перасохла?

Каб скарыстаць яе, я тамака зрабіў запруду і вось ад гэтага крыніца перасохла.

Чаму парвалася струна ў гарфе?

Я прабаваў ударыць ноту, якая была вышэй яе моцы і вось ад гэтага парвалася струна.

* * *

Куды таропішся ты з сваім кошыкам, гэтым позьнім вечарам, калі кончыўся торг?

Яны ўсе разышліся па хатах з сваімі ношамі; месяц пазірае праз вясковыя прысады.

Водгульле галасоў, што склікаюць на пераплаў бяжыць па цёмнай вадзе да дальніх балатоў, дзе сьпяць дзікія качкі.

Куды таропішся ты з сваім кошыкам, калі кончыўся торг?

Сон паклаў свае пальцы на вочы зямлі.

Варон'і гнёзды сьціхлі і шэпты бамбукавых лісьцяў маўчаць.

Работнікі вярнуўшыся з палёў расьцілаюць цыноўкі ў панадворках.

Куды таропішся ты з сваім кошыкам, калі кончыўся торг?

* * *

Па змрочнай сьцежцы лятуценьняў я пайшоў шукаць тую любую, што была маёю ў мінулым жыцьці.

Яе дом стаяў з краю бязьлюднае вуліцы.

Папугай, якога яна песьціла, сядзеў дрэмлючы на сваёй жэрдцы на вячэрнім вецярку і галубкі маўчалі ў сваім кутку.

Яна паставіла лямпу ля брамы і стала перада мной.

Яна зірнула шырокімі вачыма мне ў твар і маўкліва спытала: „Ці здароў ты, мой дружа“?

Я стараўся адказаць ёй, але наша мова згубілася і забылася.

Я думаў і думаў, але нашыя імёны ня ўзышлі мне на памяць.

Сьлёзы блішчэлі ў яе вачох. Яна працягнула мне правую руку. Я схапіў яе і маўкліва стаяў.

Нашая лямпа трапыхалася на вячэрнім ветры і згасла.

* * *

Нашто ты сароміш мяне сваім поглядам?

# Соль

**Гараўскі**

— Чаго гэта хлопцаў у салдаты бяруць, ці не вайна будзе?—крыкнула ўдава Міроніха Настасі, бяручы ваду ля студні.

Уздрыганулася сэрца ў Настасі—а! мо' й праўда. Не зажыла яшчэ старая рана па сыну Якубу, якога забілі на вайне. Рванулася з двара ў хату.

— Вайна будзе, казала Міроніха. Во хлопцаў усіх у салдаты бяруць.

— Кажаш вайна?! — таксама ўздыгануўся Андрэй, абціраючы палатаным рукавом сухі лоб.

— Вайна, значыцца, будзе —казаў у раздум'і сам сабе.

— Я пайду да Сідара, а ты дома пасядзі.

Апрануў Андрэй дзіравы кажух і вышаў.

Рве вецер бярозкі каля хаты, шморгае па бурай саломе згорбленых стрэхаў, вые ў платох.

Пашоў Андрэй да Сідара а ў галаве панёс сумную вестачку пра вайну.

* * *

Мокры холад на дварэ. А ў хаце цёпла. На камінку смольныя карчы гараць. Трашчаць вясёла і грэюць таксама, як заўсёды. Толькі думкі ня тыя. Думкі трывожныя.

Ляжаў Пііп на печы, а нешта чорнае, як той чарвяк точыцца ў грудзёх. Зьлез з печы, на агонь угледзеўся.

А перад вачыма плывуць гады страшнай разрухі і голаду. Бяз солі жылі тады. Лебядой бывала летам карміліся, а пасаліць няма чым. Дзеці ўміралі ад гэтага, на розныя хваробы хварэлі.

— Ну, як Паўліна? Так, значыцца, заўтра трэба па соль пайці, няхай будзе на ўсякі выпадак.

Я ня прыйшоў жабраваць,

Ўсяго на адну гадзіну я супыніўся ля краю твае сядзібы за садовым плотам.

Нашто ты сароміш мяне сваім поглядам?

Ніводнае розы я ня ўзяў з твайго саду, ніводнае садавіны я не сарваў.

Я знайшоў сабе ўкрыцьцё пад цяністым прысадам, дзе кожны чужы падарожны можа стаяць. Ніводнае розы я не сарваў. Але ногі мае затаміліся і паліў моцны дождж.

Вятры крычаць між пахіленага бамбуковага гальля.

Хмары панясьліся па небе, як быццам яны ад каго ўцякаюць.

Ногі мае затаміліся.

Я ня ведаю, што ты думаеш пра мяне, ці каго чакаеш ля сваіх дзьвярэй.

Блісканьне маланак сьлепіць твае зоркія вочы.

Адкуль магу я ведаць, што ты бачыш мяне, калі я стаю ў цемені.

Я пакідаю цяністае дрэва ў канцы твайго саду і месца, дзе я сядзеў натраве.

Зьмерклася; зачыні свае дзьверы; я пайду па сваім шляху.

Кончыўся дзень. Пераклаў **Мардвілка.**



13 год таму назад буржуазія распачала сусьветную вайну. У гэту вайну ў аднэй толькі Расіі было забіта адзін мільён 800 тысяч чалавек, пакалечана было больш 2 мільёнаў. І ўсё гэта рабілася пад благаславенствам „духоўных айцоў".

— А з каровай як?! Восень без малака. Як Красуля здохла, дык хоць вадой дзяцей кармі.

— А як вайна дык бяз солі як?..

— Хоць-бы цялушку якую, ці што... калі сабраў грошы, дык беражы.

— Карову там нажывем... вот солі-б толькі хваціла. Вайна.

— Ну ты, як ведаеш там... Толькі-ж глядзі...

— Мусіць вайна будзе, калі з Пobалава да нас у перакацыў па соль паехалі, там ужо разабралі.

* * *

— Мне насыпай, пусьці, браткі, мяне.

— Куды прэшся, пасьпееш усю соль забраць хочаш.

— Го-го-го—заіржалі на дварэ—Сідар з возам пад'ехаў.

— Яно так—замяўся Сідар—хто яго там ведае, няхай будзе. Многа бывае выпадкаў.

— Ну, браткі,—крычаў копэратыўшчык,— па аднаму, ня ўсе зразу. Спарней тады будзе. Усім хопіць, тут 170 пудоў солі, не разьбярэце.

— Ну ты там, твая справа—насыпай.

— Мне цяпер. Куды-ты прэшся, цыбаты, пусьці мяне.

— Хваціць і табе не гарачыся.

У краме было цесна. Адзін цераз аднаго лезьлі, штурхаліся, а кожны першым хацеў быць, скрозь гоман чулася лаянка.

— Го-го-го—зноў зарагаталі на дварэ, гэтым сьмехам сустракалі, кожную новую хурманку.

— Што гэта, ты Піліп, воз мяшкоў набраў, ці ня думаеш, ты ўсю кіпарацыю забраць?..

— Што-ж браткі...

— Што, перабіў яго дзед Міхей.—У цябе-ж каровы

# У дні вызваленьня

## (Нарысы з ліпнёўскіх дзён 1920 г.)

### Белапалякі йшлі на Менск

Калі ўваходзілі белапалякі ў Менск, то яны азначылі свой уваход тым, што закалолі некалькі зусім бязьвінных асоб, якія былі каля сваіх кватэр.

Далей ідзе агульнае рабаваньне ўсіх крам, коопэратываў і прыватных кватэр. А варта было якому небудзь прыхільніку палякоў сказаць, што той ці іншы комуніст, ці нават стаіць за комуністаў, як ён зараз-жа атрымліваў кулю.

### „Жоўнежы крыху супакоіліся“

Стаяць па вуліцах пастэрункковыя. Здаецца, забясьпечаны ад нападу, але на выгляд адно, а на справе другое. Мясцовыя жыхары, бязумоўна за выключэньнем тых, якія сьпеліся ў адну дудку з польскаю дэфэнзываю, перадаюць адзін аднаму, што пастэрунковыя самі разьдзяюць праходзячых да сарочкі.

Забойствы бязьвінных, рабаваньне рабочых і сялян рознымі спосабамі, зьдзекі і зьнявага беларусоў і яўрэяў яшчэ больш абурылі рабочых і сялян супроць панскага „дэмократычнага“ ураду.

### Вясна прынесла надзею на вызваленьне

Вясна 1920 году прынесла надзею на вызваленьне ад белапольскага ўціску. Чырвоная армія перайшла ў наступленьне. Палякі адступаюць. Партызанскія атрады яшчэ больш дзейнічаюць. Яны разьбіваюць польскія ар'ергарды і вельмі часта абараняюць народную маемасьць ад зьнішчэньня. Палякі канчаткова азьвярэлі. Паляць вёскі і гарады. Гарыць і Менск з усіх бакоў—гэта сымболь, што сеньня ці заўтра прыдзе наша слаўная Чырвоная Армія і прынясе волю працоўным.

Раніцою 11 ліпеня мы даведаліся, што з гораду выехалі амаль усе палякі, за выключэньнем маленькіх ар'ергардзікаў.

У камароўскім лесе стаяць чырвонаармейцы. Усе жыхары-суседзі сядзяць па склепох, або ляжаць на падлозе.

### Чырвоныя ў Менску

Сабраўся мітынг. Увесь горад быў ужо упрыгожаны чырвонымі штандарамі і ў кожнага сустрэчнага быў вясёлы-радасны твар, але побач з гэтым гарэла імкненьне да помсты буржуазіі.

На мітынзе мы ўсе яшчэ больш абурыліся і варта было сказаць хоць аднаму прамоўцу: „Таварышы! Бярэце стрэльбы. Пойдзем біць буржуазію“ то ён бы атрымаў агульны адказ—„мы ўсе як адзін ідзем у шэрагі Чырвонае арміі“.

Вось усё гэта перажытае і перанесенае на сваім карку працоўнымі Беларусі загартавала і навучыла іх быць гатовымі абараніць першую Савецкую Рабоча-Сялянскую Дзяржаву ад міжнароднае буржуазіі.

Мы гатовы!

**Т. Апацёнак.**

Дукора.

---

няма, ды цэлая псярня дзяцей, чым ты іх карміць будзеш.

— Піліп, ты-ж хацеў карову купіць. Што, раздумаў?

— Го-го-го, Піліп солі замест каровы купіць. Во будзе!..

— Чаго вам сьмешна. А як вайна, тады што? Мне во абы ўспакоілася, а там і карова будзе. Піліп пад насьмешкай хацеў завярнуць каня ды ехаць дамоў, але глянуўшы на цэлы шэраг фурманак, якія стаялі пры лаўцы, парашыў зайсьці.

Там зусім іначай гаманілі. Каля дзьвярэй было крыху вольнага месца, а ля прылаўку, і пальца не прасунеш. Кожны стаяў з мяшком, і чакаў, каб пералезьці за прылавак. Чалавек не ўпраўляўся важыць соль, ды лічыць грошы.

Насыпалі самі. Некалькі дзядзькоў адразу, ўлазіла ў засек з сольлю і напаўнялі прыгаршчамі мяшкі.

Апанас, бегаў кругом, вярцеўся, як уюн у нераце. То там жменьку схопіць, то там, а часам і з чужога мяшка ў свой адсыпе. Яно-та ўсяк бывае, калі прысьпічыць, што называецца.

— Што, і ты Піліп па сольсустрэў Піліпа стары Панас—табе-ж карову купляць трэба, а ты гэтулькі мяшкоў набраў. Ты брат не таго, не сьпяшы, а расслухайся добра. Вунь сёньня газэтку чыталі, што ня будзе вайны.

— Ты колькі ўсяго солі набраў? — гукнуў коопэратар.

— От, узяў колькі трэба.

— Плаці грошы.

— А вас чаго прыгнала—зьвярнуўся Панас да гандляроў, што прыехалі па соль з суседняга мястэчка—у вас значыць не таго. У сваёй капэрацыі значыць разабралі. Так вось як яно.

# СЯЛЯНКІ ВЫШЛІ НА ЖНІВО



Жніво жыта пачалося. Ад ранку і да зьмярканьня палі ўкрыты жнеямі. Гучаць песьні, весяляцца ратаі. Ураджай жыта ўдаўся на славу.

## Вясну заклікалі

Р. Маргуноў

Сьмяяліся далі
І сонцу і волі—
Вясну заклікалі
Ў абуджаным полі

І песьні ліліся,
І гімны гучэлі.
Празрыстыя далі
Агнём зіхацелі.

Вясна маладая
Бурлівасьцю песьціць,
Цябе я вітаю
Вясеньняю песьняй.

Вясна маладая—
Празрыстыя далі.
Вясеньняе сонца—
Вясеньнія хвалі.

В. Кашаны, Калінішчына.

---

Пусьціце мяне, браткі,—рынуўся Піліп да прылаўка, бачачы, што далей, то болей народу сабіраецца.

— Ня прыся, дурыла, чаго лезеш на галовы людзям.

— Солі трэба!..—залямантаваў раптам Піліп, быццам цераз паўгадзіны перавернецца сьвет і існаваць далей бяз солі будзе немагчыма.

— Дзе мая соль дзелася—закрычаў нехта з заду—я-ж грошы заплаціў.

— А дзе яна была?..

— Да тут паставіў мяшкі. Во пустыя ляжаць.

— Апанас, гэта ты Хвёдараву соль у свае мяшкі перасыпаў?

— А няхай ня ставіць пад рукамі... Ведае, што палякі пад Бабруйскам.

— Гад ты, так я-ж грошы заплаціў...

— . грошы прападуць, як палякі прыдуць. Я з торапу... Ліха яго тут разьбярэ, што чыё.

* * *

Замаразкі былі, лёдам сьціснулі мокрую зямлю. А ў хаце цёпла, на комінку смольныя карчы гараць.

Толькі думка ў Піліпа цьмяна мятусіцца і агонь на комінку ня радуе. Як цяпер жыць. На карову грошы зьбіраў, ды нейк яны так і пашлі — то солі, то яшчэ чаго.

Праўду ў газэтцы пісалі, што вайны ня будзе; палякаў пад Бабруйскам ня было. А цяпер як заваліў сьвіран сольлю, ды, любуйся. А мужыкі праходу не даюць. Кажуць—Піліп сольлю дзяцей карміць будзе.

Павярнуўся на печы, паскроб патыліцу ды перакаціўся на другі бок.

Эх цемната ты, наша уздыхнуў цяжка Піліп,

# Аб чым пяе Магілеўшчына

**Сяргей Уралаў**

Як толькі сонца пачне спускацца з паўдня і настае адзін з тых ціхіх вечароў, які ўсьлед за сабой пасылае прыгожую ціхую летнюю ноч, калі месяц, як човен у бязьмежным акіяне нырае пад хмары, тады на вёсцы, якая ўсё болей і болей скідвае з сябе ланцугі старога быту, чуюцца пераэвоны дзявочых і юнацкіх галасоў.

Не пакідаюць у свах сьпевах яны і вартаўнікоў заваёў Кастрычніка—чырвонаармейцаў, аб якіх яны таксама ня мала сьпяваюць і ў зімовыя халады за кудзеляй, і ў летнія ночы сярод жытніх з васількамі палёў:

„Піша мілы мне пісьмо,
Што з белымі сражаецца;
З красным ордэнам дамоў
У водпуск сабіраецца".

## МАГІЛЕЎ У СТАРАДАЎНЫЯ ЧАСЫ



Віды на Магілеў з берагу Дняпра (з старасьвецкай гравюры)

Пяюць яны новыя, створаныя самой вёскай песьні, у якіх, як у люстры, адбіваецца і сум, і радасьць, і каханьне; песьні, якія можна сказаць зьяўляюцца летапісамі паступовага шляху культурнага, палітычнага і эканамічнага разьвіцьця вёскі.

Больш і часьцей за ўсё пяе вёска частушкі, якія тут завуцца проста прыпеўкамі.

Кожны вечар у вёсцы чутно, як адна з дзяўчат пачынае пець якую небудзь частушку і яе зараз-жа падхватваюць дзесяткі дзявочых галасоў, частушку аб тым, як па савету свайго мілога яна пашла ў школу вучыцца грамаце:

„Як мілога ня любіць—
Па яго партрэту?
Стала грамаце вучыцца
Па яго-ж савету".

А калі каханы пабудзе ў водпуску, ды яшчэ з гармоньню, а потым паедзе, то зноў у вячэрнюю пару, успамінаючы аб ім, засьпявае дзяўчына:

„Я сядзела ў вакошка
З крышы капала вада—
У мілога ёсьць гармошка
І на шапачцы зьвязда".

Міжнародныя падзеі ў народнай творчасьці знаходзяць адбітак. У сувязі з адносінамі да нас ангельскага ўраду і правалам надзей Чэмбэрлена ўжо ёсьць частушка

„Э гармонь мая равуха
Дождж ідзе, дарога суха.
Па равох ідзе вада
Чэмбэрлену, вось бяда!"

расьпяваецца як хлопцамі, так і дзяўчатамі.

Вёска пакідае верыць у бога, у цэркаў. А гэта адбіваецца ў прыпеўках:

„Я ў царкву не пайду
І не сабіраюся,
А ў хаце ў чытальні
З мілым „павянчаюся“.

А як у яе будзе дзіцё то:

„Да папа свае дзіцяці
Не паедзем мы хрысьціць.
Піонэрам будзе. Галстук
Стане на шыі насіць“.

Вышаўшы замуж, яна павядзе бараць-бу з рэлігійным дурманам:

„Павыкідваю іконы
ім у хаце месца нет.
На сьцяну бальшы павешу
Дзядзькі Леніна партрэт“.

Сын навучаны маткай, падросшы ні ў час гора, ні ў час суму ня будзе зваць да сябе на помач бога, бо:

Мяне матка навучыла,
Сідзя на парозе,
Не маліцца зусім богу
Дома і ў дарозе“.

Сыны, вырасшыя ў савецкай краіне, крэпкія, загартованыя бараньбой за лепшае жыцьцё, будуць ламаць падпоркі старога вясковага жыцьця:

„Паразбурваем мы царквы,
Паразгонім здані.
Забудуем замест іх
Школы ды чытальні“.

Ёсьць другі род частушак, якія пяюцца на вечарынках, сярод танцулек пад гукі гармоніка. Гэта тыя частушкі, у якіх пяецца пра каханьне, частушкі то жыцьцёрадасныя, то сумныя, то поўныя неперадаваемым горам дзяўчыны:

„Каб я знала—не ламала
Каліну ня вызраўшы;
Каб я знала—не кахала
Мілага ня вызнаўшы“.

Часта здараецца тое, што дзяўчына кляне і той час, у які яна пазнаёмілася з хлапцом, і сваё няўдалае каханьне:

„Лепш-бы я цябе ня знала—
Незнаёмая-б была,
Не балела-б маё сэрца
І шчасьліва-б я жыла“.

Яшчэ часьцей пяе дзяўчына аб тым, што хлапец, які раней кахаў яе, кінуў яе, пачаў шукаць сабе другую:

„Гарадзі мілы даліну,
Гарадзі шырокую,—
Кінь сабе мяне плахую
І найдзі харошую“.

А колькі яны сьпяваюць аб тым, каго яны кахаюць, аб тым, як яны стараюцца зацікавіць хлапцоў. Адна запяець:

„Я сядзела на камодзе
Шыла юбачку па модзе,
Па бакох ідуць брыжы
Каб любілі ад душы“.

І ўсе разам:

Люблю тое жыта жаці—
Што большыя каласы
Люблю тога кавалера—
Што ўгору валасы“.

Часта дзявоцкае сэрца і сама дзяўчына шкадуе аб тым, што яна сваімі насьмешкамі над каханьнем хлапца застаўляе яго гараваць:

„Я калінaчку ламала
Ветачку аставіла.
У восемнаццаць год хлапца
Гараваць заставіла“.

Гэтыя частушкі пяюць вясковыя дзяўчаты. Хлапцы пяюць аб іншым. Калі па вясковай вуліцы ідуць комсамольцы, комуністы ці перадавая сялянская моладзь, то чуюцца рэволюцыйныя сьпевы і газэтныя частушкі (аб шматпольлі, антырэлігійныя і нават—бытавыя); калі-ж адсталая, прывыкшая хуліганіць і „бузіць“, то ўся вуліца грыміць такімі частушкамі, аб якіх нават сорамна ўспамінаць.

Частушкі гэтых хлапцоў адзначаюцца грубасьцю, насьмешкамі, рогатам здаволенай жывёлы.

Возьмем, прыклад: хлапец, які дзякуючы сваім выхадкам атрымае ад дзяўчыны адказ пяе:

На дварэ стаіць калодзеж,
А ў ім няма вады.
Нашы дзеўкі задаюцца—
Галавамі іх туды“.

Калі-ж паглядзець і разабраць усе тыя песьні, якія пяюцца вёскай у зімовыя ночы, летнія вечары, або з сярпом на жытніх гонях, ці з касой на сенажаці, дык адразу відаць, што вёска адраджаецца хоць, у сучасны момант песьні дзяўчат больш цікавыя і прыгажэйшыя, як па форме, так і зьместу, чым песьні хлапцоў, але нядалёка той час, калі і хлапцы, кінуўшы бузіць і хуліганіць, разам з дзяўчатамі, альбо ўступіўшы ў шэрагі комсамолу, ці пад яго ўплывам пачнуць будаваць новы быт, паляпшаць сваю гаспадарку і ствараць новыя песьні, у якіх пачуецца блізасьць да соцыялізму.

Быхаўскі раён





## Дайце вёсцы п'ес!

**(Голас нізавога політасьветніка)**

Адным з галоўных мейсц у політасьветнай працы на вёсцы, займае вясковы тэатр. Вясковы тэатр заваяваў права на існаваньне ў жыцьці і быце сучаснай беларускай вёскі, нараўне з скокамі вечарынкамі.

Разам з паляпшэньнем экономічнага становішча вёскі, з палітычнай актыўнасьцю сялянства наогул, расьце зацікаўленасьць яго і да вясковага тэатру.

Не здарма-ж на вёсцы так многа драматычных гурткоў, шмат якіх з іх добра працуюць!

Асабліва важнае значэньне набывае гэты від політасьветнай працы ў летні час, пры правядзеньні розных кампаній.

Летам лягчэй можна ўладзіць пытаньне з памяшканьнем, паставіўшы спэктакль у гумне, а ня то проста на дварэ. Але нашы драмгурткі па вёсцы цяпер знаходзяцца ў кепскім становішчы.

Яны не цэнтралізаваны ў маштабе раёну, ніякага кіраўніцтва няма, сродкі адсутнічаюць, п'ес таксама няма.

Шмат яшчэ дзе „грымірующца“ сажай, а выручаныя грошы загадчык хатычытальні забярэ сабе ў кішэнь, бо справаздачы яго няма, дзе ён грошы дзяе.

Самае цяжкае пытаньне, гэта недахоп п'ес, падыходзячых для вясковае сцэны вельмі мала. Такія п'есы, як „Суд“, „Мікітаў лапаць“ і інш. ужо некалькі разоў ставіліся ў аднэй вёсцы.

Цяпер адчуваецца голад на п'есы, для вясковага тэатру.

У гэтым напрамку шмат зрабіла, у свой час, часопісь „Маладыя Араты“, зьмяшчаючы п'есы на сваіх старонках.

Цяпер п'ес амаль што ня друкуюць. Галоўполітасьвет ідзе на спатканьне запатрабаваньняў вёскі. Выпусьціў у зборніку „Да дню вызваленьня Беларусі ад белапалякаў“—п'есу „Чырвоныя кветкі Беларусі“.

П'еса вельмі цікавая, каштоўная, але-ж яна друкавалася і ўжо шмат дзе нават па некалькі разоў ставілася.

Такім чынам ізноў няма чаго ставіць!

Чаму нашы пісьменікі не напішуць п'ес, так патрэбных для вёскі?

Дзяржаўнае Выдавецтва Беларусі чамусьці не выдае п'есы, кажуць ужо даўно напісанай т. Гарбацэвічам—аўтарам п'есы „Чырвоныя кветкі Беларусі“, а яе было-бы мэтазгодней выдаць, чымсі некаторыя вершаваныя зборнікі.

Я прапаную выпускаць п'есы зборнічкамі, а таксама зьмяшчаць п'есы на старонках часопісаў. Гэта будзе дапамагаць вясковаму тэатру і політасьветнай працы наогул, папулярызаваць часопісі, удзешаўляць іх і павялічыць попыт на гэтыя часопісі ў вёсцы.

Дайце цікавую, здаровую камэдыю, альбо драму для вясковага тэатру!

**Вёска Караліштавічы, Самахвалаўскага раёну** **Маеўскі Пятрусь**

# Паштовая скрынка

**Я. Адзярыху.** Апавяданьні Вашы—„Батрачка“ і „Янка Вясёлы“—ня друкуем—слабыя.

**Чубару.** Верш „Берёзки“ ня пойдзе—расійскіх вершаў ня друкуем. Перадалі ў „Звезду“.

**Лявону Кісялёву.** Верш Ваш „Веснавеі“—друкуем. У далейшым ні ў якім выпадку ня ўжывайце расійскіх зваротаў, як напрыклад, „апранулась“ (па беларускі „апранулася“), закахалася. А таксама зусім небеларускае слова „нежны“. Чыстата мовы, з усім багацьцем яе адценьняў—неабходная прыналежнасць мастацкасьці.

**Р. Івашыну.** У вершы Вашым „Раніца ў вёсцы“ ёсьць слова „абудзілась“. Просім пачытаць адказ папярэдняму таварышу.

Галоўлітбел № 25251 Менск, 2 друк. БДВ. Надруков. 12.500.